# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9).
Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.**
Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

**Год II. Вільня, Пятніца, 1-га верасьня 1922 г. № 17 (42).**


# ГРАМАДЗЯНЕ!

9 гэтага жніўня ў месьці Вільні заснаваўся

**БЕЛАРУСКІ ЦАНТРАЛЬНЫ ВЫБАРНЫ КАМІТЭТ**

для усіх Беларускіх зямель у межах Польскае Рэспублікі.

Камітэт прыступіў ужо да арганізацыі выбараў, маючы на мэце правясьці ў Сойм і Сэнат дэпутатаў, якія шчыра будуць **бараніць нацыянальныя правы беларускага народу, правы нашага працоўнага сялянства і работнікаў, грамадзкую, палітычную і рэлігійную волю для ўсіх грамадзян краю бяз розьніцы нацыянальнасьці і вызнаньня.**

„На Беларускіх абшарах **уся зямля тутэйшаму працоўнаму сялянству!**“ — вось кліч, напісаны Камітэтам на яго штандары.

Абвяшчаючы гэта, Беларускі Цантральны Выбарны Камітэт горача заклікае усіх Беларусаў прыступіць да выпаўненьня свайго **грамадзкага абавязку**, згуртавацца каля Камітэту, аб'яднаць свае сілы і безадкладна закладаць акружныя і абводавыя выбарныя Камітэты у-ва ўсіх выбарных акругох, дзе ёсьць беларускае насяленьне, адносячыся з поўнай верай да камісараў і агентаў Беларускага Цантральнага Выбарчага Камітэту.

Адрэс Камітэту: **Вільня, Віленская вуліца, дом № 12, кв. 6.**

Усімі выбарнымі справамі кіруе **ПРЭЗЫДЫУМ КАМІТЭТУ.**

**Старшыня:** *Антон Луцкевіч.*

**Сэкрэтар:** *Міхал Кахановіч.*

# БАРАЦЬБА ЗА ПРАВА.

Выбарная барацьба пачалася.

З аднаго боку стаіць беларускае грамадзянства — беларускі народ, той самы народ, які польскім урадам пазбаўлены грамадзкіх і нацыянальных правоў, гучна на паперы абвешчаных Соймам і забясьпечаных міжнароднымі трактатамі. Гэты народ **хоча атрымаць для сябе голас у Сойме** дзеля абароны сваіх правоў.

З другога боку стаіць польская адміністрацыйная ўлада і польскія паны, каторыя згодна працуюць, **каб беларусаў у Сойме ня было**.

І пад той час, як беларусы арганізуюцца дзеля выбару ў Сойм сваіх дэпутатаў, — польская ўлада пачала адкрытую барацьбу з гэтай работай.

Вось „першыя красочкі“—першыя гвалты, учыненыя над беларусамі назаўтрае пасьля абвешчаньня выбараў і „свабоды агітацыі“.

19 жніўня паліцыя арыштавала ў Маладэчне селяніна Сароку за тое, што ён разам з другімі сялянамі напісалі заяву аб далучэньні да Беларускага Цантральнага Выбарнага Камітэту. Пасьля дапросу СарокУ прымусілі даць падпіску аб нявыезьдзе. Пасьля быў зроблены дапрос другім падпісаўшым заяву, каб гэтак запалохаць іх і адбіць ахвоту ад учасьця ў выбарнай рабоце.

Гэты паступак паліцыі ёсьць **праступленьне** па службе, ёсьць грубае нарушэньне закона аб свабодзе выбараў. У дзяржавах, дзе пануе права, а не самаволя ўлады, за такое праступленьне паліцэйскіх аддаюць пад суд і цяжка караюць.

У Вільні, пад вокам вышэйшае ўлады, паліцыя зусім адкрыта, ў белы дзень, каля 2 гадзіны, 29 жніўня пазрывала на варотах і ў браме дому № 12 па Віленскай вуліцы надпісы, што тут зьмяшчаецца Беларускі Цантральны Выбарны Камітэт. Пратэст, быўшаго пры гэтым сябры Камітэту, ня быў прыняты пад увагу.

Ведама, што ніякая ўлада ня можа забараніць арганізаваць беларускія выбарныя камітэты. Вось, паліцыя стараецца зрабіць хоць-бы тое, каб людзі не маглі знайсьці свайго камітэту!

Бяззубая гэта злосьць і нас яна не запужае.

Цікава тут адзначыць яшчэ адзін факт, каторы беспасярэдна з „выбарнай свабодай“ ня зьвязаны, але суліць на час выбарнае кампаніі яшчэ адну небясьпеку: небясьпеку з боку шовіністычна настроенай часьці арміі. Вось голы факт.

У Леаполь, Дзісенскага павету, дзе стаіць пагранічны батальён, прыехаў кс. Зенкевіч, шчыры дэмакрат і абаронца сялян ад усялякіх гвалтаў адміністрацыі,—родам беларус. 13 жніўня тут меўся быць уладжаны вечар, даход з якога павінен быў пайсьці на папраўку касьцёла. Пазваленьне на вечар было атрымана і ад старасты, і ад ваеннае ўлады. Але дэмократызм і беларускасьць ксяндза Зенкевіча шмат каму калола вочы. І вось, падпаручык Немчык, родам з Галічыны, пастанавіў разагнаць вечар. Пастанавіў і зрабіў. Калі-ж проці гэтага ксёндз запратэставаў, дык афіцэр выхапіў шаблю і рассек кс. Зенкевічу галаву.

Гэтых фактаў даволі, каб паказаць, як адносяцца да беларусаў прадстаўнікі ўлады, як улада ў нашым краю паважае **права і закон.** Аднак, гэта не павінна нас палохаць: мы ведаем, што ўсё гэта скончыцца, і вінаватыя пойдуць пад суд, калі ў Сойм пападуць беларускія дэпутаты. І тутэйшыя адміністратары гэта ведаюць: затым-то яны і пачалі барацьбу з беларускай выбарнай работай.

Ды дарма: народ наш ужо расчыніў вочы і пазнаў, дзе праўда. І народ выбярэ ў Сойм сваіх шчырых заступнікаў і абаронцаў, — выбярэ, ня гледзячы на злосьць і скрыгатаньне зубамі тых, хто жыве з крыўды народнай, хто нарушае права і закон.

**І. Мялешка.**

---

**ГРАМАДЗЯНЕ! Аб кожным нарушэньні адміністрацыяй свабоды выбарнае агітацыі, аб кожным арышце за перадвыбарную агітацыю, аб нявыдачы дакумэнтаў і другіх нарушэньнях закону ураз-жа паведамляйце на пісьме Беларускі Цантраль-**

